# Беларускі Чарнігаў

Ты лічыш сябе сапраўдным беларусам?

А ці ведаеш ты пра “беларускі Чарнігаў”?

Яшчэ ня ведаеш?

Тады гэты буклет патрапіў у патрэбныя рукі!

**Ты (ня важна якім чынам) апынуўся ў Чарнігаве. Што табе тут пабачыць? Куды схадзіць? І што ж тут усё ж такі беларускага? Адказы на гэтыя пытанні ты знойдзеш, калі прачытаеш буклет да канца.**

**(На агульнай мапе літарай “А” пазначаны чыгуначны вакзал.)**

**1. Узбярэжжа ракі Дзясна (малюнак 1а).** Стоячы на так званым “Чарнігаўскім Вале” (на агульнай мапе аб’ект пазначаны літарай “В”) і гледзячы праз рачны порт на іншы бераг ракі, што называецца Дзясною, можна ўбачыць нізкі бераг, на якім размясціўся пляж. Раней, калісьці даўно, там было ўзвышша. Па звестках некаторых гісторыкаў менавіта там, на ўзвышшы, стаяў у даўнія часы князь Свідрыгайла Альгердавіч са сваёй світай. На той час Свідрыгайла быў Чарнігаўскім князем і патрабаваў, каб жыхары горада падтрымалі яго ў змаганні з Вітаўтам. Але жыхары адмовіліся, пасля чаго князь спаліў амаль увесь горад.

1а

Пагаворваюць, што ў 1651 годзе на тым жа месцы стаялі войскі Януша Радзівіла, адразу пасля перамогі пад мястэчкам Рэпкі над казакамі, што ваявалі пад кіраўніцтвам Антона Нябабы.

**2. Палац палкоўніка Якава Лізагуба (малюнак 2а).** (Дом Мазэпы, дом палкавой канцылярыі.) Прыгожая аднапавярховая тагачасная забудова, якая знаходзіцца на тэрыторыі парка “Дзяцінец” і з’яўляецца зараз помнікам архітэктуры. Тут калісьці таксама бываў гетман вялікі літоўскі Януш Радзівіл, калі вёў перамовы з чарнігаўцамі. (На малюнку 2б аб’ект пазначаны чырвоным сцяжком).

2а

2б

**3. Вуліца Францішка Багушэвіча (малюнак 3а).** Знаходзіцца ў Новазаводскім раёне (“Масаны”). Даехаць сюды можна ад гатэля “Украіна” на аўтобусе ці машрутцы № 15. Варта заўважыць, што вуліца гэтая абсалютна нічым не адрозніваецца ад іншых, і помніка ідэолагу нацыянальнага адраджэння і аднаму з пачынальнікаў беларускай літаратуры Багушэвічу пакуль што там няма. Але ж пасля ейнага наведвання, па прыездзе на радзіму, вы зможаце пахваліцца здымкамі шыльдаў з імём нашага суайчынніка. А гэта для беларусаў сапраўдны гонар! (На малюнку 3а аб’ект пазначаны літарай “А”).

3а



4а

**4. Калегіум (малюнак 4а).** Месцазнаходжанне: вуліца Прэабражэнская 1 (на агульнай мапе аб’ект “С”). Пры будаўніцтве калегіума фундатарамі былі прадстаўнікі казацтва. А менавіта: гетман Іван Мазэпа, а таксама этнічны беларус з Вілейкі гетман Украіны Піліп Орлік – аўтар першай украінскай Канстытуцыі, грунтоўна перапрацаванай са Статуту ВКЛ 1588 г.



5а

**5. Чарнігаўская абласная ўніверсальная навуковая бібліятэка імя В. Караленкі (малюнак 5а).** Адрас: праспект Міра, 41 (на агульнай мапе – “D”). Раней у гэтым будынку знаходзіліся дваранскі зямельны і сялянскі пазямельны банкі. Мясцовыя гісторыкі-беларусаведы распавядаюць: “Францішак Багушэвіч не мог сюды не хадзіць, бо калі ён быў праўнікам, прадстаўляў пэўныя юрыдычныя інтарэсы, ясна, што гэта быў адзіны банк, куды ён мог заходзіць. Пісьмовых сведчанняў няма, але ён тут проста не мог не быць.”

6а

**6. Будынак былой Чарнігаўскай земскай управы (малюнак 6а).** Адрас: вул. Шаўчэнкі, 7 (на агульнай мапе – “Е”). Знаходзіцца на скрыжаванні вуліцы Шаўчэнкі і праспекта Міра. Арыенцір – гатэль “Україна”, потым направа ў бок Кацярынінскай царквы. Будынак быў моцна “адрэстаўраваны” і зараз там знаходзіцца Аблдзяржадміністрацыя. У Чарнігаўскую земскую ўправу ў свой час хадзіў на службу Францішак Багушэвіч, калі хаваўся ад пераследу як удзельнік паўстання 1863-64 гг. Дарэчы, беларускі паэт адвучыўся на юрыста таксама недалёка ад Чарнігава - у Нежынскім юрыдычным ліцэі (адлегласць паміж двума ўкраінскімі гарадамі – 90 км).




Агульная мапа

## Цікава ведаць:

- Упершыню Чарнігаў узгадваецца ў 907 годзе ў дамове Русі з Візантыяй, калі кіеўскі князь Алег, сцвярджаючы сваю перамогу над грэкамі, абавязаў іх «даяти суклады на русския грады, первое же на Киев, та же на Чернигов, на Переяславъ, на Полотсък, на Любечъ и на прочия грады; по тем бо городам седяху велиции князи под Олгом сущи».
- 1419 год - прымірэнне Вітаўта са Свідрыгайлам, які атрымлівае ад вялікага князя літоўскага Чарнігаў (з Гомельскай воласцю), Ноўгарад Северскі і Бранск. Свідрыгайла застаецца на аддадзеных яму ўдзелах да канца жыцця Вітаўта.
- Напачатку ХХ в. дзякуючы шашы «Кіеў—Пецярбург», паміж Чарнігавам і Гомелем увесь час курсавалі конныя дыліжансы.
- У 1928 годзе завяршаецца будаўніцтва чыгункі «Чарнігаў—Гомель».
- У сувязі з шырокай савецкай праграмай 1960-80-х гг. перасялення рускага афіцэрскага складу і працоўных на Чарнігаўскі радыёпрыборны завод ды Хімвалакно «па кірунку» з Варонежскай, Курскай, Калужскай і іншых абласцей - каля 40 % сучаснага насельніцтва горада размаўляе па-руску, 30 % - па ўкраінску. Пэўная частка насельніцтва размаўляе на ўкраінска-беларускай мяшанцы.
- У Чарнігаве існуе Беларуская нацыянальная культурная супольнасць "Сябры".
- У 1930 годзе беларускі протаіерэй, святы пакутнік Іаан Варанец быў адпраўлены на год у ссылку ў Чарнігаў за тое, што ў сваіх пропаведзях выказваўся супраць палітыкі рабавання сялян , якая праводзілася савецкімі ўладамі.

**Ад аўтара: калі вы маеце нейкія звесткі пра рэшткі беларускасці ў Чарнігаве, ці ведаеце пра "прыгоды беларусаў" у Чарнігаве, то, калі ласка, лістуйце на адрас mika.sapraudnaya@gmail.com. Дзякуй!**

***Асаблівую падзяку хацелася б выказаць эксперту-беларусаведу ў Чарнігаве Уладзіславу Ахроменку.***

**Распрацавана Гомельскім аддзяленнем Таварыства беларускай мовы.**

**Наклад 299 асобнікаў.**